# Маладзёвы Весьнік

№5(10) Красавік 1998 Выданьне Маладога Фронту


# ДЗЕНЬ СЬМЕХУ



*■ Там паніка. Хтосьці адчуў свой апошні час і ўваччу ўжо тагасьветны вагонь. Хтосьці расьпіхвае стоўпленых пасажыраў, з жывёльнаю прагай ірвецца да месца ў шлюпцы.*

**Тытанік – ст. 2**

*■ Нашую ўвагу прыцягнула падзея, што адбылася ў Менску ўначы з 28 лютага на 1 сакавіка 1998 г., калі вузенькі серп маладзіка быў зацягнуты брудна-шэрымі хмарамі. Я маю на ўвазе не надыход каляндарнае вясны. У тую ноч адбылося яшчэ нешта: на сьценах дамоў зьявіліся надпісы.*

***І дзе я? – ст.5***

1 красавіка 1998 г. у Магілеве шырока адзначалі Дзень Сьмеху.

Не засталіся ўбаку ад урачыстасьцяў і магілеўскія маладафронтаўцы.

У 17:30 на самым людным месцы горада зьявілася незвычайная апошнім часам для Магілева купка людзей. У руках яны трымалі... партрэт ППРБ А.Р. Лукашэнкі, сашавы сьцягі ды плякаты кшталту “Лукашенко — наше солнце!”. Натоўп цікаўных не прымусіў сябе чакаць... Ад іх не адсталі й “ахоўнікі парадку”, якія хуценька прапанавалі ну вельмі зьдзіўленай моладзі прайсьці ў бліжэйшы пастарунак, пашматаўшы некалькі плякатаў, але не крануўшы й пальцам Вусатага ды Чыровона-зялёнае...

Вы запытаецеся пра вынік? Вынік быў такі: сустаршыня Маладога Фронту Алесь Асіпцоў, сябра Цэнтральнае Рады МФ Ясь Абадоўскі, сябра Цэнтральнае Рады МФ, старшыня Магілеўскага Маладога Фронту Андрусь Кавалёў атрымаюць позвы ў суд за “незаконное пікетірованіе”, а Аляксей Бацюкоў, сябра Магілеўскае Рады МФ ды Аганэс Мурадзян за “распространеніе печатных ізданій, ізготовленных с нарушэніем установленного порядка...”

Тымчасам каля раўсу з паўсотні разьюшаных малойчыкаў-нацыяналістаў нэрвавалі падпалкоўніка, які складаў пратаколы...

...І хлопцаў адпусьцілі!

Дзень Сьмеху працягваўся ўжо на волі.

*У сувязі з буйнамаштабовымі магілеўскімі акцыямі апошніх тыдняў у МВ №6(12) — вялікае інтэрвію лідара магілеўскага Маладога Фронту Алеся Асіпцова.*

*■ Ё-маё, не магу ўрубіцца ўва ўсе гэтыя выбаркі ды разборкі. Ці то яны непераборлівыя, ці перавыбарлівыя — лідэры нацыі, адно слова.*

**Вырабы’99 – ст.8**

*■ Як на Вашую думку, хто — чарнявыя, бялявыя ці, можа, лысыя ў паласку — зьяўляюцца сапраўдным колерам нацыі?*

**Двубой – ст.4**

*■ 15 красавіка ў менскім клюбе “Рэзэрвацыя” адбудзецца трэцяя па ліку канцэрт-акцыя-дыскатэка “Вольныя танцы”.*

**Вольныя танцы ў вольнай краіне – ст.3**

## Аляксей Шыдлоўскі ЗА КРАТАМІ



24 лютага засуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі за надпісы “Жыве Беларусь!”, “Я люблю Беларусь!”. Адсядзеў ужо паўгады пад сьледзтвам. Выкінуты з унівэрсытэту.

Лёша, мы будзем змагацца за цябе!

## НА ВОЛІ



Вадзім Кабанчук у пятніцу, 27 сакавіка быў вызвалены ў залі суда з прысудам “тры гады ўмоўна”. Вадзім трымаўся малойцам, і ягонымі першымі словамі на волі быў вокліч: “Жыве Беларусь!”

Улады перапужаліся ўзьнятай пасьля суду Лабковіча-Шыдлоўскага кампаніі маладзёвага супраціву ў Менску, Магілеве, на Гарадзеншчыне, у Стоўбцах.

Нас баяцца — значыць, перамога блізкая!

# ТЫТАНІК



Так, гэта трэба ўбачыць. Народ валам прэ ў кінатэатры, рассаджваецца перад сьцяной экрану й моўчкі чакае.

Ён плыве — грандыёзны, скрозь браняваны, чорны. Дым зь дзесяціпавярховай трубы. Акіян аж бурліць ад вінта.

Кожны, кожны чакае, калі раптоўна праб'е падводны таран. Калі ўздрыганецца Тытанік.

Гэта прэм'ера!.. Гэта яго, усяўладнага, непатапляльнага прэм'ера Чарнамырдзіна!.. Разам з усім грузам міністрэрскіх партфэляў. На шыю павесілі ордэн, быццам ужо непатрэбны якар. Стоп, машына... Позна. Ніхто не чакаў такіх калясальных падводных глыбаў. І яны, уладары караблю, замёрлі, адчуваючы, як у аграмаднае чэрава бурляць праз прабоіны тоны ледзяное вады, як стыне ў жылах кроў, як наліваецца халодным, сьмяротным цяжарам днішча Тытаніку.

Колькі ў нас часу, капітан? Куранты праб'юць 2000, і ўся Імпэрыя пойдзе на дно. Хутчэй, пакуль ёсьць магчымасьць сесьці ў шлюпкі! Хвіліны, бясцэнныя, таюць, як лёд у келіху зь віскі. Немыя віскі...

Гэта ведаюць толькі адзінкі — і яны ўжо цішком спускаюцца да вады. Двухтысячны год набліжаецца, як ледзяная гара. Не, гэта мы нясемся насустрач яму, і немагчыма спыніцца. Тысячы тонаў жалезьзя й нарабаванай раскошы гатовыя ў апошні раз каўтнуць паветра й навек пагрузіцца ў пучыны.

А на малой палубе цыганскага выгляду боцман і пара яго-ных падручных ліхаманкава ўпакоўваюць свае валізы. Тут толькі яны ведаюць, што грамадная махіна вось-вось пойдзе на дно. Сьпяшаюцца, рассоўваюць па кішэнях пачкі грошай. Тут ужо ня зважаюць — хто Ціця, хто Віця, хто славянін, а хто чужародзец. Ува ўсіх аднолькавы выраз твару. Насьцярожаныя мордачкі дробных грызуноў, зморшчаныя страхам, аж натапыраныя вусікі й ашчэраныя зубы. Гэта адзіная банда, якая ўсіх давяла да бяды, а цяпер цішком, задыхваючыся ад боязі, выносіць з чорнага ходу рэчы. Вось гэты, з агромністым багажом і мінай тупога ўрода, калісьці сарваў з грот-мачты дзяржаўны сьцяг. Вось гэты, у скуранцы, з павадкаю пільнага пацучыскі, вынюхваў крамолу па трумах. А гэты, акулярысты шкіпэр, бледны настолькі, што кучаравая шавялюра здаецца парыком — гэты да апошняе хвіліны будзе вяшчаць з радыёрубкі, што ўсё спакойна, бяз панікі, што прабоіны залатаюць, што ўсё гэта прошукі нацыянал-тэрарыстаў... І будзе гробіць усіх пасажыраў, таму што ўпэўнены — месца ў лодцы яму забясьпечанае. Яны, яшчэ на параненым судне, пры тысячах жывых пасажыраў ужо прыкідваюць, разьлічваюць, як будуць апроўдваць катастрофу ў судзе. Як будуць тапіць адно аднаго ўжо тады, на беразе.

А пасажыры ня хочуць і думаць пра тое, куды Тытанік плыве. Іх цікавіць, чаму затрымліваецца вячэра, чаму ня вынесьлі портэру тым, хто гуляе ў гольф. Яны грэбліва назіраюць камандай, якая чамусьці нэрвуецца й таемна перашэптваецца ў кубрыку.

Тытанік загіне. Ня верась. Такі калясальны... Там жа гарантыя на стагодзьдзі. Там жа колькі дзясяткаў адсекаў, там жа магутныя помпы...

Там жа столькі людзей. Там жах колькі трупаў.

Я паўтараю, трывога. Тытанік пойдзе на дно разам з капітанам, з усім майном і велізарнымі грузамі. Гэта ведаюць усе, хто сядзіць у кіназалі. І кожны таемна моліць, каб ягоны герой аказаўся ў шлюпцы. Ня трэба саступаць месца гэтай жанчыне. Ратуйся хутчэй! За борт падлетка. Якія дзеці, да д'ябла...

Там ужо паніка. Хтосьці адчуў свой апошні час і ўвачу ўжо тагасьветны вагонь. Хтосьці расьпіхвае стоўпленых пасажыраў, з жывёльнаю прагай ірвецца да месца ў шлюпцы. Хтосьці ў залі плача. Хтосьці ўжо ў вадзе.

Вам відаць на экране ўсіх. Вы бачыце, як яны кідаюцца па палубах. Бачыце, хто зь іх герой, хто падонак. Глядзіце ўважліва.

Запамінайце.

Гэта гіне Тытанік.

Віталь СУПРАНОВІЧ:

# ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ Ў ВОЛЬНАЙ КРАІНЕ

*чарговая беларуская музычная імпрэза*




15 красавіка ў менскім клюбе “Рэзэрвацыя” адбудзецца трэцяя па ліку канцэрт-акцыя-дыскатэка “Вольныя танцы”. Для тых, хто ня ведае паведамляю, “Вольныя танцы” — гэта штомесячны канцэрт, з удзелам вядомых і пачынаючых беларускіх гуртоў, які ладзіць “Беларуская Музычная Альтэрнатыва”. Нагадаю, хто браў удзел у папярэдніх канцэртах.

“Вольныя танцы I” былі прэзэнтаваныя ў клюбе “Акварыюм” ды адзначыліся біцьцём шыбаў і ламаньнем дзьвяроў прыхільнікамі беларускага року. Сьпявалі: NRM, Уліс, Зьніч, Склеп, Exist, Камэлот.

“Вольныя танцы II” ў “Рэзэрвацыі” прайшлі без эксцэсаў. Прасьпявалі Новае Неба, Flowerwill, Barfly’s Dreams, Кальян, Deviation.

Урэшце, падчас “Вольных танцаў III” вы маеце магчымасьць пачуць гурты Гай, Сонца Мао, Правакацыя, Інтэльмэдыя, PostScriptum. Да канцэрту будзе прымеркаваная дыскатэка. Кошт уваходу 50’000 БРБ з флярам ды 60’000 безь яго.

Увага: гурты, што жадаюць выступіць падчас наступных акцыяў “Вольныя танцы” мусяць даслаць беларускамоўную праграму на адрэсу: 220085 Менск, а/с 5, Віталю Супрановічу.

## РАСТУЦЬ НАШЫЯ ШЭРАГІ

*палку беларускіх партызанаў прыбыла!*




На днях у лідара аднаго зь лепшых беларускіх гуртоў NRM Лявона Вольскага нарадзілася дачка. Нагадаю, што жонка Лявона да сёньняшняга дню невядомая шырокім масам. Адзінае, што нам удалося даведацца — яе завуць Ганнай і працуе яна на Радыё 101.2. Нашыя віншаваньні!

# ПАЎФІНАЛ!

*Ура, шаноўнае спадарства! Урэшце мы дачакаліся паўфіналаў Двубою! Тыя, хто перамог супернікаў, уступаюць у бойкі паміж сабою.*



Такім чынам, першая пара — пераможца магутнага Скочкі, даўгавалосы й акулярысты праграмайстар, інтэлектуал і вольны кансэрватар Аляксей Чарняеў — ён справа, і — трыбушальнік пільнага, учэпістага Януковіча, дынамаўскі прадпрымальнік, высокі асілак арыйскага выгляду, Віктар Несенчук!



**Першы ўдар (апэркот): За каго Вы балееце на Дынама"?**

За Джорджа Вашынгтона.

За каманду "Акулы Капіталізму".

**Другі ўдар (ніжэй пояса): Які тып жанчынаў Вам падабаецца? Калі ласка, выкарыстайце маладафронтаўскія ці, на Ваш густ, фронтаўскія прыклады.**

Ну гандляр я: і падабаецца мне тып базарнай бабы, які ў МФ нярэдкі й сярод хлопцаў.

Мне прасьцей вызначыцца ад адваротнага — не падабаюцца мне не-маладафронтаўскія жанчыны/дзяўчыны. За выняткам, канешне, патэнцыйных маладафронтавак.

**Трэці ўдар (хук): Талісман Беларусі для Вас — гэта сусьлік, бусьлік, два буслы, зубр, зайчык, конік зь вершнікам... Карацей, хто?**

На мой пагляд талісманам Беларусі сталася парачка бусло — бяз дурняў, бо пасьля шматлюдных сэмінараў сп. Падгола кожнага разу на Ўправе БНФ пачалі аднекуль зьяўляцца кучы самаробных папяровых бусьлікаў.

Адзін бусел — талісман радзільнае клінікі, два — выцьвярозьніка, тры — гэта ўжо глюкі.

Герб Беларусі — Пагоня, талісман Беларусі — Я!

**Накдаўн (лічым да трох): На Вашую думку, якія — чарнявыя, бялявыя ці, можа, лысыя ў палоску — зьяўляюцца сапраўдным колерам нацыі?**

Бравы бялявы Бяляцкі... (рэдакцыя касуе другую палову адказу, а то лысыя пакрыўдзяцца)

Бялявыя, чарнявыя... Чарняевы — 'ось гэта моц!

# І ДЗЕ Я?

*творчасьць нашых чытачоў*

Маладафронтаўская Алімпіяда ўжо стала здабыткам гісторыі. Яе падзеі вельмі шырока асьвятляла айчынная й замежная прэса. У добрай сотні публікацыяў, здавалася б, знайшлі адлюстраваньне ўсе больш-менш цікавыя моманты Спартовага Сьвята. Але ж сапраўдны дасьледнік заўсёды знойдзе для сябе поле дзейнасьці, на якім можна вырасьціць ня толькі лякальны скандальчык, але й сапраўдную сэнсацыю сусьветнага маштабу.




Нашую ўвагу прыцягнула падзея, што адбылася ў Менску ў начы з 28 лютага на 1 сакавіка 1998 г. , калі вузенькі серп маладзіка быў зацягнуты брудна-шэрымі хмарамі. Я маю на ўвазе не надыход каляндарнае вясны. У тую ноч адбылося яшчэ нешта: на сьценах дамоў зьявіліся надпісы. І былі гэта не шчыраваньні наконт В. Цоя альбо традыцыйны нацыянал-радыкальны вандалізм. Гэта былі спрадвечныя назвы вуліцаў. Вуліца Пляханава сталася Срэбным Логам, Маякоўскага — Ігуменскім трактам, Ванеева — Будзілаўскай, Гікалы — Бондараўскай, Слабадзкая — вуліцай Лявона Вольскага.

Рэдакцыя МВ правяла сваё сьледзтва, у выніку якога былі вылучаныя тры асноўныя вэрсіі. Паводле першае, беларускія будынкі ня прыймаюць бальшавіцкія назвы, і наступнікі зруйнаваных рознымі акупантамі дамоў у адну ноч выявілі на сваіх сьценах маўклівы, але выразны пратэст. Другая вэрсія прыпісвае акцыю старым нацыяналістам, якія маглі яе зьдзейсьніць, маючы на мэце давесьці сваю адукаванасьць і культуровую перавагу над нацыяналістамі маладымі. Урэшце, прыхільнікі трэцяй вэрсіі сьцьвярджаюць, што надпісы былі зробленыя менавіта маладымі, і толькі для таго, каб выявіць сваю неадукаванасьць і бяскультур'е.

Тымчасам кампэтэнтныя органы (Інтэрпол і Сусьветная Асацыяцыя Ўфолягаў). Па факце зьяўленьня надпісаў узбуджаная шырокая хваля нацыянальных пачуцьцяў.

*Сьледзтва працягвае штатны сьледчы МВ*

**А.Я.**

---

# ТРУБА

*памылкі мінулага*

Ідэя была добрая. Выпакутваная на сотнях камуністычных дэманстрацыяў, падчас якіх цяжка было пазбавіцца мараў пра сваю акцыю такога ж кшталту. Гэткі нацыяналістычны Першамай. Зь дзеткамі, што нясуць сьцяжкі, з моладзьдзю, што асьвятляе шэсьце тысячамі ўсьмешкаў, з вэтэранамі руху ў галаве калёны. І, канешне, з аркестрам.

Аркестар мусіў быць абавязкова. Каб пасалідней. Каб надаваць страчаны зь цягам часу імпэт і так знаёмае з тых далёкіх гадоў пачуцьцё, што жыць стала лепш. І, вядома, каб глушыць вяканьне маладых.

Аркестар мусіў быць. Па-іншаму сьвяткаваць проста ня ўмеюць.

Аркестар быў, і ўсё прайшло амаль што добра. Усе як мае быць: салідна, і нікому ня сьмешна. Не да жартаў было й удзельнікам шэсьця. І гэта правільна. Сьвята сур'ёзнае. Няма чаго лыбіцца ды араць. Што, падобна да пахаваньня? А вы думалі, бываюць жывыя легенды? Пажывіце з нашае.

Затое сьмешна было "ахоўнікам парадку". І радасна, лёгка пісаліся пратаколы на затрыманых маладафронтаўцаў. Можа, наступным разам яны дадуць нам свой аркестар, га? У сьвяточнай форме, дырыжор з шабляй. Будзе ўсё, як раней. Па-сапраўднаму. А можа й сьцягі іхныя возьмем? Яны дадуць...

**Л. ПЯТРОВІЧ**

*P. S. Рэдакцыя разумее, што высновы ў спрэчках можна рабіць толькі выслухаўшы абодва бакі. Партыя бубнаў будзе надрукаваная ў наступным нумары.*

праця́г:

# ДЫ-ДЖЭІ АДРАДЖЭНЬНЯ: СЬВІСЛАЦКІ СЬЛЕД

Калі ж хлопец зайшоў у харчовую краму, маючы на мэце крыху падсілкавацца, адразу прыгадаў праграмны артыкул, дзе было напісана пра немагчамасьць спажываньня Купалы з кока-колай, і таму набыў да колы пачак чыпсаў. Ідучы далей, ён з кожным рухам сківіцы пераконваўся ў слушнасьці словаў Шэфа Культурніцкага Спэцаддзелу.

Пад вечар, а пятай гадзіне, у школу на дыскатэку пачала сьцягвацца моладзь. У фае былі выцягнутыя вялізныя калёнкі, узмацняльнік, магнітафон, сьвятламузыкальныя прылады.

На пачатку Аляксей паставіў лёгкую танцавальную музыку. Некалькі дзяўчатаў узьняліся з лаваў і пачалі няпэўна рухацца. Хлопец зразумеў: час брацца за мікрафон. Паставіў чарговую касэту, і павітаўшы ўсіх яшчэ раз, па ды-джэйску крута выгукнуў у залю: "А зараз для дзяўчатаў, якія, як звычайна, сьмялейшыя, гучыць гурт Кветачкі (Blumchen) з гітом "Hera an Herz". Паехалі!" Гіт сапраўды паехаў, але хлопцы таньчыць і ня думалі. "Час даваць Беларушчыну!"— вырашыў Аляксей і ўключыў "Тыж мяне падманула". Хлопцы засталіся на лавах, да іх хутка далучыліся й дзяўчаты. "Нічога, нічога,— ліхаманкава думаў напружаны ды-джэй,— зараз дамо гарачыні!" І паставіў "Мела мамка тры сыночкі" не забыўшыся паведаміць пра перамогу NRM на "Рок-каранацыі'97". Адказам на крыкі Лявона Вольскага з дынамікаў была мёртвая цішыня. "Усё згінула!"— падумаў няшчасны Аляксей, але на дапамогу сьпяшаўся мясцовы нефармал, які праціснуўся да пульта й сунуў Аляксею касэту: "Пускай! Усе будуць таньчыць!". Аляксей кіўнуў хлопцу за пультам, той уставіў касэту і... загучала "Арія". "Но Россія жыва..."— араў вакаліст, а змучаны хлопец напружана шукаў адказу на пытаньне "што рабіць?!", але з запаленых глуздоў выплывалі, чамусьці, толькі словы Шэфа пра тое, што "беларусы не мацюкаюцца, а толькі лаюцца". "Не! Толькі ня лаяцца"— сьцяўшы сківіцы загадаў сабе Аляксей, і з нечаканa абуджанай энэргіяй загадаў асыстэнту за пультам ставіць "Песьняр-рок". Круціў тры песьні запар — тры лепшыя. Вынік ранейшы...

"Запускай замежнае, хай дзяўчаты патаньчаць!"— здаўся хлопец. Але агенты ФСБ ня спалі, і праз колькі хвілінаў з дынамікаў паляцела: "На белом-белом покрывале января...". Каб адпомсьціць Аляксей напрыканцы яшчэ раз шарахнуў "Беларускае Дыска". Думкі ў галаве мітусіліся натыкаючыся на завіслыя над спусьцелай заляй словы: "ты ж мяне, маладога, з уму-розуму зьвяла..."

Калі дыскатэка ўжо даўно скончылася, супакоены Аляксей ехаў у цягніку ў Менск і ціха разважаў: "Нічога, блін, першы блін, зразумела, камяком..."

Але цяпер ён ужо без усялякіх умоваў — Ды-Джэй Адраджэньня. Як яму цяпер звацца? DJ Alex? DJ Mouse? Ці проста і з густам DJ of Renaissanse? Ён засынаў і грукалі колы, грукалі, як дыскатэчны рытм, як уступ да мэлёдыі сапраўднага Дыска...

**Аляксей СЬВІСЛАЦКІ**

*P. S. Усе факты і асобы, а таксама словы, знакі прыпынку і вы, шаноўныя чытачы, — выдуманыя аўтарам. Але дасьведчаныя людзі сьцяврджаюць, што ўсё апісанае загадкавым чынам мела месца ў сапраўднасьці, і менавіта ў р/ц Сьвіслач, 6 лютага 1998 г. ад нараджэньня Хрыстова.*

# ПРЫЕМНА ЧУЦЬ...

- З посьпехам прайшла першая беларуская дыскатэка ў МАР'ІНАЙ-ГОРЦЫ. У пярэрвах паміж песьнямі сярод больш як двух сотняў наведвальнікаў былі праведзеныя разнастайныя конкурсы, якія выклікалі вялікую зацікаўленасьць ува ўсіх прысутных. Была абраная лепшая пара дыскатэкі, здаравезная гіра дапамагла вызначыць самага моцнага хлопца, але кульмінацыяй стаў конкурс "Міс дыскатэка". Заля, якая выконвала ролю журы, так і ня здолела абраць найпрыгажэйшую сярод двух фіналістак, таму прызы былі ўручаныя абедзьвюм дзяўчатам. Тымчасам мясцовыя бэпээсэмнікі вырашылі сарваць злавесныя пляны нацыяналістаў, дзеля чаго прапанавалі мясцовай шпане зьбіць маладафронтаўцаў, паабяцаўшы разьлічыцца сьпірытусовымі напоямі.

Спакусіўшыся, шпана рушыла ў атаку...

На працягу гадзіны ў розных месцах Мар'інай-Горкі адбываліся жорсткія бойкі. Маладафронтаўцы аказаліся дастойнымі нашчадкамі К. Астроскага, і нягледзячы на двукротную перавагу праціўніка, разагналі ахамеўшых паўдуркаў па падваротнях. Яшчэ тыдзень маладафронтаўцам спрабавалі адпомсьціць за ганебную паразу, але штораз нарываючыся на непрыемнасьці, шпаняты сьціхлі, і зараз ходзяць па вуліцах зь вялікай асьцярожнасьцю.

- У БАБРУЙСКУ на Дзень волі былі вывешаныя 20 сьцягоў. Суцэльныя суткі давялося працаваць мясцовым міліцыянтам і пажарнікам, каб бабруйскія вэртыкальнікі маглі хадзіць па горадзе бяз рызыкі атрымаць інфаркт ад нечакана пабачанага бел-чырвона-белага палотнішча.

- У МАГІЛЕВЕ на 1 красавіка плянуецца сьцёбны пікет. Сябры МФ і БНФ будуць стаяць зь лёзунгамі накшталт "Саша, я быў ня праў!". Маючая адбыцца акцыя чамусьці вельмі напалохала мясцовую вэртыкаль, прынамсі перад міліцыянтамі была пастаўленая задача абадраць улёткі любымі сродкамі. У выніку, на сьценах, дзе была надта трывала паклееная агітацыя, сталі зьяўляцца выбаіны й нават дзіркі.

# ГОРАДНЯ: МАЛАДЫ ФРОНТ НЕ РАЗЬБІЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ, НЕ СТРЫМАЦЬ!

*моладзь адзначыла 80-я ўгодкі БНР*

Гарадзенская моладзь распачала сьвяткаваньне 80-х угодкаў БНР яшчэ 7 сакавіка. У гэты дзень адбыліся пікеты, прысьвечаныя Дню Волі. Моладзь таксама зьбірала подпісы ў абарону Лабковіча, Шыдлоўскага й Кабанчука. Было сабрана 170 подпісаў у падтрымку палітвязьняў.

Маладафронтаўцы выйшлі на пікет не адно з плякатамі, але і з магнітафонам. Песьні Сокалава-Воюша, Данчыка, кампазыцыі NRM стварылі такую патрыятычную атмасфэру, што ў вачох у людзей зьяўляліся сьлёзы. А пад "Магутны Божа" стварылася такая чарга жадаючых падпісацца за палітычных зьняволеных, якой не пабачыш і ў краме. А да Маладога Фронту моладзь далучалася суцэльнымі гуртамі.

15 сакавіка Гарадзенскі гарвыканкам адмовіў Маладому Фронту у правядзеньні лёгкаатлетычнага прабегу, прысьвечанага Дню Волі, што, натуральна, ніякім чынам анікога не зьбянтэжыла. Моладзь рыхтавалася да будучых баёў.



*Моладзь Горадні сьвяткуе не зважаючы на забароны*

22 сакавіка Гарадзенскі МФ пад сваёю харугвай удзельнічае ў сьвяточным шэсьці й мітынгу ў Менску, і пасьпяхова, без людзкіх стратаў (у адрозьненьне ад берасьцейцаў ды навапалачанаў), пакідае горад, уцёршы нос міліцыі.

25 сакавіка гарвыканкам Горадні забараняе сьвяткаваньне Дня Волі, падчас якога плянаваліся: рок-канцэрт з удзелам гуртоў NRM, Новае Неба і Уліс, мітынг, сьвяточная вечарына ў памяшканьні тэатру і выстава. На папярэджаньне Гарадзенскае Рады БНФ пра магчымыя наступствы бясьсэнсоўны старшыня гарвыканкаму А. Пашкевіч паабяцаўся зламаць Фронту хрыбет.

Але Малады Фронт было ўжо не разьбіць, не спыніць, не стрымаць. Наведаўшы выставу "Пагоні" моладзь сфармавала калёну ды, разгарнуўшы сьцягі, рушыла па цэнтры горада скандуючы "Моладзь за Беларусь!", "Жыве Беларусь!", "Радзіма, Свабода..."

На падаўленьне маладых апазыцыянэраў была ў баявым парадку сьцягнутая ўся міліцыя. Была абвешчаная апэрацыя "Шчыт". Але "ахоўнікам парадку" ці духу не хапіла, ці сумленьне замучыла — яны так і не адважыліся атакаваць. Наадварот, моладзь зацерла ў калёне двух апэратараў гэбэ, і яны перапуджаныя да сьмерці, ледзь выбраліся.

Але гэта было яшчэ ня ўсё. У ноч з 25 на 26 сакавіка моладзь нанесла яшчэ адзін удар. Увесь горад быў расьпісаны лёзунгамі: "Далоў рэжым", "Жыве Беларусь!", "Лука — сатана!".

Гарадзенскія ўлады запомняць гэты дзень. Зямля будзе гарэць пад нагамі, бо судзіць іх будзе Беларуская Моладзь!

**Сяржук ГАРАДЗЕНСКІ**



*Дзень Волі ў Менску*




# ВЫРАБЫ'99

*наш адказ кандыдатам у П.. рэзыдэнты*

Ё-маё, не магу ўрубіцца ўва ўсе гэтыя выбаркі ды разборкі. Ці то яны неперабарлівыя, ці перавыбарлівыя — лідзеры нацыі, адно слова. То яны бары, то рабы — а так абое рабое, карацей, вырабы 1994 года з тэрмінам годнасьці, даўно прамінулым. Ды ўвогуле бяз тэрміну, бяз годнасьці. Як жа ім хочацца, гэтым бескарысным выкапням, павырабля... Пардон, павыбірацца — выбрацца зь ямы праз выбары. Выбяры мяне, выбяры мяне, я зраблю Сашку, зараблю башкі. Я вырублю, а я вырулю, я з выраю, а я зь вераю, я раю, а я верую, я проста выю, а я — гэта вы... Дзевяноста дзевяць спосабаў выбрацца куды хочаш. Нават дзевяноста дзевяць і дзевяць дзясятых.

Багданкевічу здаецца, што яму Богам дадзена ня толькі прозьвішча, а яшчэ й бясспрэчнае гледзішча, і ён выбірае Карпенку (і гатовы здымаць зь яго пенку). Але тут выскоквае 'шчэ адзін і клянецца: ня богі гаршчкі абпальваюць, а Ганчары; дарма што ў гэтага ганчара гаршчкі атрымоўваюцца толькі начныя. Але ўжо галосяць і сацыял-дэмакраты, як гэта ў іх прынята, аж на тры галасы. Адныя крычаць: Статкевіча! Другія — а Шуш вам! А трэція — не пад стаць статкевічаву, не пад чуш шушкевічаву, а сечку — не асечку, а Сечку...

Змагайцеся, братцы. Шчасьліва абрацца.

**Пісучы ШУСТРЫК**

Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Адказны за друк: Ф. СКАРЫНА
Макетоўшчык: Page MAKER 6.5
Рэдакцыйная калегія: Павал СЕВЯРЫНЕЦ, Сяржук ПАЎЛЕНКА, Алесь АСІПЦОЎ, Аляксей ШЭІН, Яўген СКОЧКА, Віктар НЕСЕНЧУК, Цімафей ДРАНЧУК
Наклад: 299 асобнікаў
Тэл./Факс: 233-50-12